— У Бэрліне 31 жніўня адбылася маніфэстацыя, арганізованая патрыятычным саюзам з прычыны дзесятых угодкаў баёў на мазурскіх вазёрах.

— Жэнэўскі корэспондэнт бэльгійскага агенцтва паведамляе, што ангельскі прэм'ер Мак-Дональд запрапануе гэтай сэсіі Лігі Народаў пытаньне аб незабаўным прапарцыянальным раззбраеньні пад кантролем Лігі.

— **Італьянскі** прэм'ер Мусоліні заявіў у інтрэрвью, што супрацоўніцтва фашыстаў з лібэраламі магчыма і пажадана. Мусоліні заявіў далей, што гатоў перадаць уладу ў іншыя рукі, калі народ гэтага зажадае.

— Канцэлярыя прэзыдэнта **Чехаславакіі**, з прычыны заявы Савінкова нібыто ён адтрымаў ад Масарыка грошы на барацьбу з бальшавізмам, заяўляе ніжэйшае: Масарык, будучы ў 1918 г. ў Маскве, сустрэўся з Савінковым і даведаўшыся аб яго цяжкім фінансавым палажэньні, жаданьні эміграваць і заняцца літэратурнаю працаю, запрапанаваў яму падмогу. Гэта быў ня першы і не апошні выпадак падтрыманьня расейскага літэратара. Аднак-жа Савінкоў адмовіўся ад запрапанованай падмогі.

— З **Масквы** паведамляюць, што ў месцы пахаваньня трупа Леніна знойдзена пякельная машына, якая, калі-б узарвалася, дык магла-б зьнішчыць увесь будынак. У зьвязку з гэтым зроблена шмат арыштаў асабліва сярод студэнтаў.

# Агляд прэсы.

## „Гэнэрал-губэрнатары на Крэсах“.

Пад гэткім загалоўкам варшаўская газэта „Robotnik” зьмяшчае артыкул, у якім, кажучы аб назначэньнях ваяводамі гэн. Янушайціса і Альшэўскага і адносячыся вельмі крытычна да гэтага проэкту ўраду, м. ін., піша:

> Гэн. Янушайціса і Альшэўскага назначана на тое, каб яны ўрадавалі „паваеннаму“. Але што гэта значыць у абставінах констытуцыйнага жыцьця, рэгуляванага законамі? Ваяводская пасада абмяжована законамі. Дзеяльнасьць ваяводы ня можа быць самавольнай, ня можа як хочаш расшырацца, ня можа выхадзіць за межы закону. У рамах істнуючага законнага парадку ваяводзе ў мундзеры нельга рабіць што іншае, як ваяводзе ў чорнай тужурцы...
>
> Дык як-жа будзе? Ці гэтае назначэньне паказвае, што констытуцыя на крэсах адкінецца, законы будуць зачынены ў куфар і страціцца ключ ад яго, што на крэсах замест рэформаў і разьвіцьця нармальнага грамадзкага жыцьця — запануе ўсемагутны гэнэральскі загад? Але-ж урад ня мае ніякага права самавольна зьмяняць характар улады!
>
> Мы чулі, што ўрад маніцца даць гэтым новым гэнэрал-губэрнатарам нейкія спэцыяльныя „паўнамоччы“. Але-ж гэта будзе незаконна! А цікаўна, як гэта будзе ўзмацоўваць на крэсах парадак!
>
> ...Урад не зрабіў на крэсах яшчэ ніводнай рэформы, нічога не перамяніў на крэсах, не загаіў ніякае балячкі. І вось першай рэформай мае быць мілітарызацыя адміністрацыі, г. зн., каб трымаць насяленьне ў страху, і адначасна выказваецца недахват усялякай шырэйшай палітычнай думкі, недахват жаданьня грунтоўна паправіць адносіны.
>
> Барацьба з бандытызмам на крэсах, зьніштажэньне дывэрсыйных аддзелаў, абесьпячэньне граніцаў— гэта ўсё справы вельмі важныя. Раншуча і заўсёды мы гэта ад'значалі. Але з гэтага зусім не выплывае, каб уводзіць на крэсах ваенныя ўрады, а, гэткім чынам, фактычна ваеннае палажэньне, якое толькі ўзмацуе і прадоўжыць унутранае зло крэсавых адносін.
>
> Назначэньне генэрал-губэрнатараў — гэта не лячэньне, але канавальства паводле старых расейскіх прымернікаў.

Самы правы польскі орган „Rzeczpospolita” таксама зьмяшчае артыкул на тэму нашых заходня - Беларускіх („крэсовых”) адносін і гэтак сама войстра крытыкуе шмат урадовых загадаў. Вось што надрукована, м. інш., у артыкуле п. з. „Папраўка абмылак”:

> Нішто гэтак не пашкодзіла нашаму ўрадаваньню на Усходніх крэсах як тое, што наша мясцовая ўлада вечна рээрганізованая, вельмі часта, зусім была неадпаведнай. І ня толькі ўлада мясцовая. Бо ці-ж дагэтуль цэнтр, Варшава, ведала, як трэба ўрадаваць на польскім Усходзе і ці не рабіла вялізных абмылак, якія цяпер імсьцяцца на інтарэсах дзяржавы?
>
> Ніколі не падумалі паважна аб тым, што ўсходнія землі Рэчыпаспалітай, дзякуючы свайму іншаму насяленьню, рэлігійным і грамадзкім адносінам і нядаўняй мінуўшчыне, ня могуць упраўляцца на аснове нормаў, якія можна дапасаваць да б. Кангрэсоукі або Малапольшчы. Лёгка ўводзіліся новыя ўстановы і спыняліся старыя, ня ведаючы, як цесна яны зьвязаны тысячамі вузлоў з жыцьцём краю.

Далей, кажучы, што прычынай усяго гэтага было тое, што справы „крэсаў“ рашаліся бяз учасьця прадстаўнікоў гэтых самых „крэсаў“ і што дзеля гэтага ўтварылася тут адміністрацыйнае безгалоўе, аўтор канчае гэтак:

> Перш за ўсё, трэба ўжо раз пакончыць з т. наз. справай „абыватэльства“ (дзяржаўнай прыналежнасьці), якая сталася крыніцай гэткага нездаволеньня. Няма ведама дзеля чаго ўлада, вымагаючы дакумантаў, якія сьцвярджаюць права „абыватэльства“, асаблівы націск робяць на выпіскі са становых кніг. А дык-жа на абшары б. Расейскай дзяржавы амаль ня ўся інтэлігэнцыя нешляхоцкага паходжаньня і праваслаўнае духавенства ў становых кнігах не запісаны. Гэткіх выпісак улада бязупынна вымагае ад праваслаўных духоўнікаў, навет радзіўшыхся тутака. Гэта выклікае непаразуменьні паміж царквой і польскай уладай і пакідае нездаволеньне сярод праваслаўных.

Падаўшы колькі фактаў дрэннага ўрадаваньня польскай улады, аўтор у канцы дае гэткую раду:

> Польскі ўрад, думаючы аб папраўцы крэсовых адносін павінен наладзіць бясьпеку і, спыняючы ўсялякія „надужыцьці“, абапёрці сваю палітыку на выразным прынцыпе прывязанасьці насяленьня да Польскае дзяржавы, а да гэтай мэты можна дайсьці толькі з такой умовай, што бюрократычныя мэтоды, якія пачалі зьвіваць сабе гняздо на крэсах, спыняцца і на іх месца прыдзе жывы контакт улады з насяленьнем і задаваленьне справядлівых яго патрэбаў.

# Жыцьцё провінцыі.

### Пажар.

(*Ад уласнага корэспондэнта*).

У вёсцы Баркаўшчына Сьвянцянскага павету 13. VIII. 1924 году з нявысьненых прычын згарэў дом і сьвіран у селяніна Янкі Касьцюкевіча. Страты не абрахованы.

### Пагрозы Мухі.

Газэта „Виленское Утро“ паведамляе, што 2 верасьня Начальнік паштовае канторы ў Ашмяне, пераглядаючы корэспандэнцыю, выбраную з паштовых скрынак, знайшоў пяць адкрытых пісьмаў, напісаных няправільнаю польскаю моваю. Адкрыткі былі адрэсованы: на імя старасты, кіраўніка паліцыі, падатковага кіраўніка, кіраўніка паштовае канторы і вядомага багатыра Стугача. У трох адкрытках пісалася, каб адрэсаты прыгатовілі ад 20 да 35 мільярдаў польскіх марак і быў пастаўлены варунак споўніць гэта ўсё да 8 верасьня. У апошніх дзьвюх адкрытках, адрэсованых на імя старасты і кіраўніка паліцыі, была напісана перасьцярога, каб яны ня чынілі ніякіх перашкодаў і не рабілі ніякіх следзтваў па гэтаму пытаньню. Пры гэтым у адкрытцы на імя кіраўніка паліцыі аўтор гразіць смерцьцю за строгія адносіны яго да падуладных яму людзей. Усе пяць адкрытак былі падпісаны: „Муха”.

# Тутэйшая хроніка.

— **Беларускае Грамадзянскае Сабраньне.** 2-IX а 7 гад. ў веч. адбылося паседжаньне рады старшыняў; з прычыны важнасьці павесткі дня кворум быў поўны. Паседжаньне адкрыў старшыня грам. Валэйша, зрабіўшы даклад ад імя прэзыдыуму, каторы быў радай прыняты аднагалосна да ведама. Далейшае прадся-

---

кінуўся на калены прад Юркай, схапіў яго за ногі.

— Сыне, сыне! даруй бацьку! — плакаў ён, а Юрка ціха паміраў.

— Даруй, сынок, даруй! — плакаў бацька.

Юрка маўчаў, пасьля апошні раз падняў вочы ўгару і сказаў: — Дарую!

І ў той-жа час заснуў вечным сном...

З таго часу зьмяніўся князь. Раздаў усю зямлю сялянам, адбудаваў спаленыя вёскі, сабраў усіх хворых і бедакоў да замку і быў бацькам для ўсіх. Калі прышла яго канчына, шмат людзей плакала па ім і, па яго завету, пахавалі яго сярод магілак Юркі і старога дварэцкага, які быў другім бацькам для Юркі.

Караба скончыў. Крупень быў гатовы.

Але ніхто ня браўся за яду. Усе былі пры сваіх думках.

— Чаго зажурыліся? — весела загаманіў Караба. — Гэта прайшло ўсё, а вось крупень стыне! — казаў ён, дастаючы лыжкі.

— Бярэцеся! — скамандаваў ён і мы дружна прыняліся есьці.

Вечар ужо надходзіў, калі мы пайшлі далей.

— Абы да Базылёвага хутара дабрацца, а там заначуем, — сказаў Ганчар.

Хутка мы выйшлі на грэблю, па якой мусіць мала хто хадзіў, а мо мала хто і ведаў пра яе істнаваньне...

## XXI.

### Затануўшая званьніца.

— Ведаеш што, Дзяргач — ціха пачаў гаманіць Міхась — ці ведаеш ты тую легэнду, якая ходзе тутака паміж жыхароў пра затануўшую званьніцу?

— Не, ня ведаю — адазваўся я, раптам адарваны ад сваіх думак.

— Ну, дык ось слухай... Калі нашую старонку пакрывалі глухія гушчары лесу, калі кожны гаспадар жыў асобна, ня так як цяпер, дык ось ля гэтага берагу, як раз проці нас, калі яшчэ ня было ў гэтым канцы возера, нейкі князь, кажуць Радзівіл, задумаў будаваць царкву. Раней за ўсё работнікі збудавалі званьніцу. Зацягнулі на яе вялікі звон і ось князь казаў зазваніць. Ён хацеў паслухаць, ці добры гук у гэтым звоне. Было гэта, як кажуць, сярод глухой ночы якраз у поўнач.

А трэба сказаць, што ў гэты час возера сярдзіта шумела і хвалі хадзілі па ім вялікія.

Сабралася шмат князявых знаёмых каб паслухаць гук звону.

Прагудзеў першы гук, паплыў над лесам, возерам далёка, далёка...

Ад гуку яго прачхнуліся ад сну птушкі, спужаліся зьвяры; прыслухаліся да яго нават далёкія жыхары...

Звон гудзеў... Здаволены князь узьлез на званьніцу, каб самому папрабаваць званіць і ось толькі ўзяўся ён за вяроўку, якая была прывязана да біла, і ўдарыў першы раз, як здрыганулася зямля, і ўсё што было на ёй і навакола, праваліласа няведама куды і ўсё гэта месца заліла вада.

Шмат людзей кажуць, што і цяпер па начох іншыя людзі чуюць, як гудзіць звон дзесь пад вадою...

Дзеля таго і мае возера ў гэтым месцы нейкую асаблівую форму, быццам дадатак да рэшты возера.

— Мяне бярэ страх! — сказала Ганка, прытуляючыся да брата...

— Чаго там! — адказаў ён, і зноў мы змоўклі...

Дык калі ты ёсьць там вялікі звон, дык хутчэй прагудзі! Хай учуюць цябе зноў, хай зноў узбудзіш ты гукам сваім птушак уночы, мо' да іх цяпер прыстануць і жыхары мае старонкі! Прагудзі хутчэй, таемны звон!

Плешчуць хвалі, шапоча сітняг і чую я, як быццам дзесь ужо пачаў гудзець цудоўны звон... Усё мацней і мацней, яму адазваўся лес, загудзеў і панёсься, будзячы ўсіх ад сну...

— Гэй, уставайце, браточкі! — чулася ў гэтым гуку.

Ночка прайшла... Зорка раніцы зайграла, хутка ўзойдзе сонца, разгоне мары ночы!

Дык чакайце, людзі!

Прыслухвайцеся чутка ўночы, ці не пачаў ужо звон гудзець!...

**Дзяргач.**

(*Працяг будзе*).

